ГРАМАДЗКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЭТА ЗАСНАВАНА Ў 1920 г.

# ПАГОНЯ

№ 7 (154) 16 - 22 лютага 1996 г. Кошт 1000 рублёў



## *«ПРЭЗІДЭНТ СПУСЬЦІЎ БЮДЖЭТ...»*

### пад які падганяе падаткі

**На традыцыйнай прэс-канферэнцыі ў аблвыканкаме з журналістамі сустрэўся галава абласной вертыкалі Аляксандр Дубко. Бегла абмаляваўшы стан рэчаў, спадар Старшыня аблвыканкаму парадаваў, што «наша вобласьць - лепшая сярод горшых». У актыў вертыкалі А.Дубко залічыў факт, што гэтай зімой не было перабоеў з цяплом і сьвятлом. Гэта сапраўды так, але з якой прычыны? А.Дубко растлумачыў: адбылася сустрэча на самым высокім узроўні з кіраўнікамі расейскіх канцэрнаў, і ўдалося дамовіцца наконт адтэрміноўкі плацяжоў. Гэта значыць, вертыкаль прадэманстравала ўменьне кленчыць і прыніжацца.**

Цяжка працаваць, адзначыў А.Дубко, ва ўмовах адсутнасьці бюджэту, як рэспубліканскага, так і абласнога. Прапанаваны нядаўна прэзідэнтам праект бюджэту і на палову не забясьпечаны рэальнымі сродкамі. Таму вельмі падобна, што пад узяты «ад балды» бюджэт будуць падганяць падаткі. Ужо ёсьць тэлеграма прэзідэнта (праз некалькі дзён будзе і ўказ) «часова» спыніць рэгістрацыю і перарэгістрацыю камерцыйных структур, а таксама выдачу ліцэнзій на любую дзейнасьць. Гавораць, таму, што камерсанты ўтойваюць даходы: прыводзіліся вар'яцкія сумы, схаваныя ад падаткаабкладаньня. Хутчэй за ўсё, гэта праўда. Аднак чаму павінны «отдуваться» толькі камерсанты? Бо, як сказаў А.Дубко, з кожных трох дзяржаўных прадпрыемстваў два таксама дапускаюць злосныя парушэньні падатковага заканадаўства!

Ствараецца ўражаньне, што ў вертыкалі няма дакладна акрэсьленай стратэгіі. Уся надзея на тое, што шляхам узмацненьня жорсткасьці падатковых інсьпекцый удасца сабраць нейкія сродкі, так-сяк залатаць бюджэт. Пры ўсім гэтым, спадар Дубко, сам таго можа і не жадаючы, расказаў цікавыя рэчы - дзе і як можна знайсьці выйсьце з нашага цёмнага становішча. «Напрыклад, - сказаў А.Дубко, - у Канадзе ўсякі прыежы, які ствара хаця б тры новых працоўных месцы, вызваляецца ад падаходнага падатку і атрымлівае права на канадзкае грамадзянства! У Польшчы ў адных толькі Сувалках выдзелена 200 гектараў зямлі для продажу з мэтай пабудовы там сумесных прадпрыемстваў».

А мы чамусьці ломімся ў адчыненыя дзьверы і ніяк ня хочам рабіць па-людзку. У нас, па-ранейшаму, спадзеў на перарэгістрацыю. Як у басьні: перасядзем - і пойдзе музыка.

**Д.ЛЕВАНОВІЧ.**

## СЯРГЕЙ АНТОНЧЫК ЗВОЛЬНЕНЫ З ПРАЦЫ

**Пасьля вяртаньня з адпачынку лідар страйкавага руху і былы дэпутат Апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце Сяргей Антончык звольнены па «скарачэньні штатаў» з завода «Белвар». Гэта ёсьць парушэньне заканадаўства, якое гарантуе былым парламентарыям працу на працягу двух гадоў пасьля сканчэньня паўнамоцтваў.**

Антончык расцэньвае гэта як палітычны прасьлед, які распачаўся пасьля вядомага дакладу аб карупцыі ў камандзе прэзідэнта і доўжыцца больш за год. Летась у жніўні пад час страйку на менскім метрапалітэне Антончык быў інтэрніраваны на тэрыторыі падразьдзяленьня Унутраных Войскаў. Хаця Канстытуцыя Беларусі прадугледжвае, што дэпутат не нясе юрыдычнай адказнасьці за дзейнасьць у Вярхоўным Савеце, спадару Антончыку было прысуджана выплаціць 200 мільёнаў рублёў маральнай кампенсацыі кіраўніку справамі прэзідэнта Івану Ціцянкову. Некалькі тыдняў таму да Антончыка ўжо зьвярталіся судовыя выканаўцы, каб апісаць ягоную хатнюю маёмасьць.

- Ціск з боку ўладаў адчуваюць і іншыя былыя дэпутаты апазіцыі, -заўважае Сяргей Антончык. - Цяпер я чакаю адказу ад Генэральнага Пракурора, рыхтую зварот да Старшыні Вярхоўнага Суда. Калі ўлады не пакінуць мяне ў спакоі, я буду зьвяртацца да міжнароднай супольнасьці з просьбай палітычнага прытулку. Бо гэта закранае ўжо ня толькі мяне аднаго, а і маю сям'ю, маіх дзяцей.

**Павет.**

## ПАЛІТЫЧНАЯ ПРАВАКАЦЫЯ НЕ ПАВІННА ПАЎТАРЫЦЦА

**На прэс-канферэнцыі, якая была праведзена ў пачатку тыдня, Намесьнік Старшыні БНФ Вінцук Вячорка зазначыў, што Беларускі Народны Фронт зробіць усё, каб запазьбегчы правядзеньня рэферэндуму аб скасаваньні Канстытуцыйнага Суда ды пашырэньня паўнамоцтваў прэзідэнта.**

Ня выключана, што рэферэндум супадзе з парламанцкімі выбарамі. Паводле словаў спадара Вячоркі, калі перад Фронтам паўстане дылема: альбо правесьці ў парламант некалькі сваіх дэпутатаў, альбо засяродзіць увагу на рэферэндуме, то БНФ бярэ прыярытэт інтарэсаў Беларусі і ўсе сілы кіне на антырэферэндумную кампанію. Пры гэтым Вінцук Вячорка не выключае, што Лукашэнка вынесе на рэферэндум і пытаньне пра стварэньне беларуска-расейскай канфедэрацыі.

**Павет.**

## ЗЯНОН ПАЗЬНЯК НЕ ЗАБЫВАЕ СМАРГОНЬ

**Добрая палова смаргонцаў ведае і памятае пра кандыдата ў дэпутаты Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь па Смаргонскай гарадзкой выбарчай акрузе N 142 Зянона Пазьняка. На жаль, дэпутатам ён ня стаў. Але пра Смаргонь не забывае. Летась яго моцна ўразіла, што ў горадзе многія скардзіліся на недахоп лекаў, на іх дарагавізну ў камерцыйных шапіках.**

Як аказалася, ня толькі добрым словам рады дапамагчы хворым дзецям кіраўнік Беларускага Народнага Фронту. Напачатку лютага Зянон Станіслававіч разам з жонкай Галінай, якая ўзначальвае дабрачынны фонд Беларускага Народнага Фронту «Дзеці Чарнобыля Беларусі», прывёз дзецям Смаргоні лекі. Атрыманы яны ад дабрачыннага фонду з Аўстрыі, дзе добра ведаюць пра дзейнасьць БНФ.

Па словах намесьніка галоўнага лекара тэрытарыяльнага медыцынскага аб'яднаньня Валянціны Манцэвіч, толькі дзіцячаму аддзяленьню раённай бальніцы было перададзена 4400 флаконаў салодкай сусьпензіі -антыбіётыка шырокага дзеяньня. Важна тое, што тэрмін годнасьці гэтых лекаў датуецца 1997 годам.

У той жа дзень З.Пазьняк разам з жонкай наведалі Залесскую ўчастковую бальніцу і перадалі галоўнаму ўрачу Францу Шчуроўскаму 1600 пакункаў дэфіцытных лекаў.

Лекі, якія паступілі на Смаргоншчыну, каштуюць у межах 15 тысяч рублёў за адзін пакунак. Агульная сума гуманітарнай дапамогі, якая прыйшла з Аўстрыі праз дабрачынны фонд БНФ - каля 94 мільёнаў рублёў.

**Павел МАКЛЮК.**

## СУМНАЯ ДЗЕСЯЦІГОДКА

Менш чым праз тры месяцы Беларусь адзначыць сумную дату - дзесятыя ўгодкі Чарнобыльскай трагедыі, якая падзяліла жыцьцё мільёнаў людзей на перыяды да і пасьля аварыі. Чорны шлейф радыёактыўнай хмары прайшоў і праз Гарадзеншчыну. Жахлівыя наступствы выбуху на атамнай станцыі найболш на сабе адчулі жыхары Іўеўскага, Навагрудзкага і Дзятлаўскага раёнаў. Чорныя плямы пакінуў Чарнобыль на частцы тэрыторый Лідзкага, Карэліцкага, Смаргонскага раёнаў. Сёньня 48 тысячаў жыхароў Гарадзеншчыны жывуць на забруджанай радыёнуклідамі тэрыторыі. Сярод іх - 12 тысячаў дзяцей, для многіх з якіх час да аварыі проста не існуе, бо нарадзіліся яны пасьля 1986 году і з першых дзён жывуць, несучы на сабе чарнобыльскі крыж.

Акрамя таго на Гарадзеншчыне жыве сёньня каля 20 тысячаў перасяленцаў з чарнобыльскай зоны. Найбольшая іх колькасьць сканцэнтраваная ў Горадні - 500 сем'яў, Мастах - 320 сем'яў, Лідзе і Слоніме - па 200 сем'яў, у Азёрах - 100 сем'яў.

**В.ЛЮДВІКОВІЧ.**

## У НЕЛЕГАЛЬНАЙ ПЕРАПРАЎЦЫ СЬПІРТУ Ў ПОЛЬШЧУ ЎДЗЕЛЬНІЧАЮЦЬ ДЗЕЦІ

**Падлеткі 10-14 гадоў выконваюць функцыі «сапёраў», закладаючы ў самыя часам недаступныя месцы вагонаў (паветраводы, бакі ў прыбіральнях і г.д.) польскіх «Лёлікаў і Болекаў» (так ласкава называюць у нас цягнікі сусьветнай дзяржавы) пляшкі са сьпіртам ды блокі з цыгарэтамі. Зрабіць гэта нецяжка. Гарадзенская чыгунка толькі фармальна лічыцца міжнароднай. Замежныя цягнікі стаяць на рэйках без усялякай аховы.**

У мінулым годзе гарадзенскія мытнікі выявілі амаль 60 тысячаў літраў нелегальнага сьпірту на агульную суму 1 млрд.200 млн. рублёў. У Брузгах на карысьць дзяржавы было канфіскавана 18 легкавых аўтамашын, абсталяваных пад «сьпіртавозы». Сотні літраў «паліва» забіраюць штодзённа і польскія мытнікі. Аднак перакрыць сапраўды залаты для многіх «сьпіртаканал» пакуль не ўдалося. Надта ж шмат людзей маюць ад гэтай справы прыбытак.

Разам з прафесіяналамі, якія пераправаўляюць сьпірт тысячамі пляшак, шчыруюць у «памежным гандлі» і «сьпіртавозы»-аматары. Без вялікіх праблемаў прайшоўшы беларускую мытню (з верасьня 1995 году вываз за мяжу сьпірту і цыгарэт у нас не абмежаваны), сьпіртныя «бізнэсмэны» (у асноўным, студэнты гарадзенскіх ВНУ ды маладыя беспрацоўныя) пачынаюць адчыняць і адкручваць у вагонах усё, дзе толькі можна схаваць лішнюю пляшку, бо палякі больш паўлітра ўвозіць забараняюць. Многім, напэўна, вядомы выпадак, калі з-за схаванага ў шчыце высокай напругі сьпірту згарэлі два польскія вагоны. У Кузьніцы дзесьці трэцяя частка схаванага выкрываецца палякамі. Астатняе пасьпяхова пераходзіць у рукі пакупнікоў. Прычым, гандаль адбываецца прама ў цягніку. Праз некалькі гадзін «прадаўцы» вяртаюцца ў Горадню за другой партыяй... Гандлёвы зварот паміж Беларусьсю і Польшчай у мінулым годзе дасягнуў прыкладна 400 мільёнаў долараў.

На памежным «чорным» рынку абарочваецца сумы ў некалькі разоў большыя. Ці то злодзеі куды разумнейшыя за дзяржаўных чыноўнікаў, ці то дзяржаўныя чыноўнікі - злодзеі яшчэ большыя.

**В.АНІМУЦКІ.**

## РАСЕЙСКІ «ГАЗПРОМ» СТАВІЦЬ УМОВЫ

Расейскае акцыянернае таварыства «Газпром» згадзілася ўкласьці сродкі ў будаўніцтва жылога дома, які будуе завод «Оптык» у Лідзе. Але высунула ўмовы, каб 40 кватэр у доме былі выдзелены беларусам, якія працуюць зараз на Поўначы ў сістэме «Газпрома».

**Ігнат ХІТРОВІЧ.**

## ЛЮБІМЫ ЖАНР ЛУКАШЭНКІ

***Днямі прачытала «абвінавачваньні» прэзідэнта спадару Багданкевічу. Хацелася б даведацца, якія наступствы для былога банкіра ўзьнікнуць ў выніку гэтых абвінавачваньняў, што яны ўяўляюць сабой юрыдычна.***

***А.КАХАНОВІЧ.***

На гэтае пытаньне нашага чытача рэдакцыя папрасіла адказаць вядомага юрыста **С.Снапа**. Вось што ён растлумачыў.

У агульным жыцьці паняцьце абвінавачваньне азначае папрок за нейкі ўчынак. Аднак юрыдычна абвінавачваньне мае строга акрэсьлены зьмест. Абвінавачваньне прад'яўляецца асобе, адносна якой сьледствам сабрана дастаткова доказаў, якія пацьвярджаюць ягоную віну. Абвінавачваньне - самы галоўны дакумант як для абвінавачанага, так і для сьледства. Усім павінны ўтрымлівацца поўнае апісаньне ўчынкаў і абставін, пры якіх яны былі зроблены, а таксама названы закон, які парушаны. Што тычыцца віны, то яна існуе ў дзьвюх формах: наўмысная і неасьцярожная. Калі ўчынак адбыўся, але нічыёй віны ня знойдзена, ня можа быць і абвінавачваньня.

Цяпер пра абвінавачваньні спадару Багданкевічу. Яны зьяўляюцца праявай журналісцкага таленту, але ніякага юрыдычнага зьместу ня маюць. Калі Багданкевіч зрабіў нешта шкоднае, калі ўстаноўлена яго віна і пры гэтым парушаны крымінальны закон, то павінна быць узбуджана крымінальная справа, праведзена расьсьледаваньне і вось тады ўпаўнаважаная асоба - сьледчы - прад'явіць вінаватаму абвінавачваньне. Затым гэта абвінавачваньне будзе разглядзена судом, які праверыць, наколькі пацьверджана доказамі віна і ці правільна кваліфікаваны дзеяньні вінаватага.

Як бачым, абвінавачваньне можа быць прававым працэсуальным актам, а па-за гэтай якасьцю - чым заўгодна, але не юрыдычнай заявай.

# ПАЛІТЫЧНАЯ СЦЭНА

## ПРЫ ЛУКАШЭНКУ БЕЛАРУСЬ НЯ МАЕ БУДУЧЫНІ

### СОЙМ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ «АДРАДЖЭНЬНЕ»

**10 лютага ў Менску прайшоў чарговы Сойм БНФ «Адраджэньне». Было разгледжана пытаньне «Аб задачах Народнага Фронту». Пра палітычныя падзеі на Беларусі і ў сьвеце паведаміў В.Асташынскі. З дакладам «Пра дзейнасьць і палітыку БНФ» выступіў Зянон Пазьняк. «10 гадоў Чарнобыля» - тэма дакладу Юрыя Хадыкі. Пра становішча ў сістэме адукацыі паведаміў Вінцук Вячорка.**

Зянон Пазьняк ахарактарызаваў эканамічную палітыку ўраду А.Лукашэнкі, як палітыку на ўдушэньне банкаў і прадпрымальніцтва, здачы маёмасьці краіны расейскім кампаніям. Першачарговыя меры -гэта палітычны саюз усіх апазіцыйных сілаў і наогул усіх сілаў Беларусі на аснове беларускай ідэі. Беларуская нацыянальная ідэя павінна стаць агульнай ідэяй. Без імпічменту Лукашэнкі Беларусь будучыні ня мае. На сёньня ні ў парламаньце, ні ў грамадстве няма сілы, каб адправіць Лукашэнку ў адстаўку. Але такая сіла можа зьявіцца ўжо сёлета, і ёй можа стаць народ. Заходнія эксперты прагназуюць на другую палову 1996 году сацыяльны выбух, мы ж павінны працаваць на адстаўку Лукашэнкі кожны дзень.

Юры Хадыка прывёў цікавыя факты, як Масква арганізавала і зьдзейсьніла радыёактыўнае заражэньне Беларусі ў 1986 годзе. Радыёактыўныя хмары маглі пасьпяхова мінуць Беларусь і наогул сушу, яны маглі рассеяцца ў палярных абласьцях. Але як толькі вецер павярнуў у бок Масквы, было прынятае рашэньне на асаджэньне хмараў. 10 гадзін спатрэбілася на арганізацыю аперацыі, на дастаўку на аэрадром Зябраўка пад Гомелем соцен тон ёдзістага срэбра, на тое, каб лётчыкі з Зябраўкі выканалі задачу. Яны асадзілі на Беларусь, на галавы сваіх сем'яў, на свой жа аэрадром 70% радыёнуклідаў.

Сойм БНФ «Адраджэньне» прыняў заявы «Пра становішча ў сродках масавай інфармацыі», «Аб антыбеларускай палітыцы ўраду Лукашэнкі ў галіне адукацыі», «10 год чарнобыльскай трагедыі».

У той жа дзень адбыўся Сойм Партыі БНФ. Сойм прыняў заяву «Пра абвастрэньне крызіснай сітуацыі ў Беларусі».

**Станіслаў СУДНІК.**

## ПРА АБВАСТРЭНЬНЕ КРЫЗІСНАЙ СІТУАЦЫІ Ў БЕЛАРУСІ

**Заява Сойму партыі Беларускага Народнага Фронту**

Становішча ў Беларусі надалей пагаршаецца. Прэзідэнцкая ўлада ставарае ўмовы і робіць захады дзеля ліквідацыі беларускай эканомікі, прадпрымальніцтва, разбурэньня свабоднай банкаўскай сістэмы, зьнішчэньня беларускай фундаментальнай навукі, беларускай адукацыі, сярэдняй і вышэйшай школы. Незалежнасьць Беларусі нішчыцца пад выглядам нібыта інтэграцыі з Расеяй, будуюцца авантурныя планы канфедэрацыі, пераўтварэньня СНД ў дзяржаву накшталт былога СССР і г.д. Усё гэта нясе новыя няшчасьці нашаму народу і нашай краіне. Крызіс у Беларусі носіць перш за ўсё палітычны характар.

Пагаршэньне жыцьця зьвязана з антыбеларускай, прарасейскай і праімперскай палітыкай А.Лукашэнкі. Пакуль будзе гэтая палітыка, пакуль будуць кіраваць асобы і структуры, якія яе праводзяць, выхаду з крызіснага стану, да якога давялі нашу краіну Кебіч, Лукашэнка, старая і новая камуністычная наменклатура - няма.

Адстаўка Лукашэнкі аб'ектыўна становіцца першаснай палітычнай умовай, каб вярнуць Беларускую дзяржаву на шлях законнасьці, канстытуцыйнасьці, дэмакратыі, павагі правоў чалавека, абароны нацыянальных інтарэсаў, на шлях паляпшэньня сацыяльнага і эканамічнага жыцьця грамадзтва.

## ПРА СТАНОВІШЧА Ў СРОДКАХ МАСАВАЙ ІНФАРМАЦЫІ

**Заява Сойму Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»**

Распараджэньнем Кіраўніцтва справамі Прэзідэнта рэдакцыя газеты «Свабода» і інфармацыйнае агенцтва «БелаПАН» высяляюцца з займаных памяшканьняў, нягледзячы на тое, што дамовы прадугледжваюць працяглы час іх арэнды. Дзяржаўныя друкарні адмовілі ў паліграфічных паслугах шэрагу незалежных выданьняў, чыя пазіцыя не супадае з палітыкай прэзідэнта Лукашэнкі. Гэтыя газеты вымушаныя друкавацца за мяжой, але дзяржаўная пошта адмаўляецца іх распаўсюджваць. Як і раней, доступ журналістаў да інфармацыі аб дзейнасьці органаў дзяржаўнага кіраваньня значна абмежаваны. Дэмакратычныя партыі ня маюць рэгулярнага выхаду на тэлебачаньне, цалкам зманапалізаванае выканаўчай уладай.

Беларускі Народны Фронт ацэньвае гэта як наступ на прынцыпы свабоды слова і як парушэньне Канстытуцыі (у прыватнасьці, артыкула 33). Народны Фронт патрабуе ад Вярхоўнага Савету Беларусі абароны права грамадзянаў атрымліваць поўную і аб'ектыўную інфармацыю і гарантыяў прафесійнай дзейнасьці журналістаў.

## АБ АНТЫБЕЛАРУСКАЙ ПАЛІТЫЦЫ ЎРАДУ ЛУКАШЭНКІ Ў ГАЛІНЕ АДУКАЦЫІ

**Заява Сойму Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»**

Палітыка ўраду Лукашэнкі ў сьферы адукацыі скіраваная на зьнішчэньне гістарычнай памяці і мовы беларускага народу. Робіцца ўсё, каб беларуская мова сталася чужою для наступных пакаленьняў беларусаў.

Чарговым крокам у гэтым кірунку стаў загад міністра адукацыі, паводле якога ў сьпісе абавязковых пісьмовых выпускных іспытаў за курс сярэдняй школы адсутнічае дзяржаўная беларуская мова. У той жа час выпускнікі абавязаныя здаваць пісьмова расейскую мову. Гэта зроблена сьвядома, каб адкінуць беларускую мову як навучальны прадмет у шэраг «непатрэбных» і непрэстыжных, каб выціснуць яе з сістэмы адукацыі, каб зьнішчыць беларускую нацыянальную школу.

Сойм Беларускага Народнага Фронту, абараняючы інтарэсы, законныя правы і будучыню беларускай нацыі, патрабуе спыніць дыскрымінацыю беларускай мовы ў школе і ў сістэме адукацыі ў цэлым. Патрабуем адмены дыскрымінацыйнага загаду.

## 10 ГОД ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ ТРАГЕДЫІ

**Ухвала Сойму Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне»**

Набліжаецца дзень, калі споўніцца 10 год з дня катастрофы на Чарнобыльскай АЭС.

Гэтая катастрофа стала падвойнаю трагедыяй для беларускага народу. Акрамя фізічна непазьбежнай плямы забруджаньня вакол самой станцыі, на тэрыторыі Беларусі ёсьць пляма, выкліканая прымусовым асаджэньнем па загадзе з Масквы радыёактыўных хмараў, якія вецер нёс у бок расейскай сталіцы. Удвая павялічылася тэрыторыя, непрыдатная для жыцьця і выключаная з гаспадарчага ўжытку. Удвая ўзрасла колькасьць хворых і памерлых, колькасьць пераселеных на новыя месцы жыхарства людзей, што атрымліваюць сьпецыяльную дапамогу, дзяцей, якім патрэбнае аздараўленьне. Генафонду беларускай нацыі быў нанесены цяжкі ўдар. Ужо некалькі гадоў колькасьць народжаных менш, чым памёрлых. Беларускі народ выміpae, але ні ўрад В.Кебіча, ні ўрад А.Лукашэнкі не рабіў і ня робіць дастатковых намаганьняў для выратаваньня людзей.

На пераадоленьне вынікаў катастрофы патрэбныя вялізныя фінансавыя сродкі. Але пасьля абвяшчэньня суверэнітэту Расейскай Федэрацыі ды развалу СССР нават тыя далёка ня поўныя і недастатковыя выплаты дзеля кампенсацыі матэрыяльных стратаў Беларусі, якія прыняў на сябе ўрад СССР, былі спыненыя маскоўскімі ўладамі. Сума гэтай запазычанасьці Расейскай Федэрацыі Рэспубліцы Беларусь сягае 30 млрд. долараў.

Разам з тым Расея, якая зьяўляецца правапераемніцай СССР, рэгулярна патрабуе выплатаў за пастаўку энерганосьбітаў на Беларусь, а ўрад А.Лукашэнкі рэгулярна робіць гэтыя выплаты коштам далейшага зьніжэньня жыцьцёвага ўзроўню людзей.

Ані асаджэньне сьмерцяносных хмараў, ані адмова выплочваць Беларусі грашовую кампенсацыю не зьяўляецца прыкладам добрасуседзкіх дачыненьняў, і тым больш «славянскага брацтва», пра якое любіць разважаць прэзідэнт Лукашэнка.

Мы патрабуем ад прэзідэнта Лукашэнкі тэрмінова ўзбудзіць справу аб выплатах Расейскай Федэрацыяй грашовай кампенсацыі Беларусі ў памерах і ў тэрміны, якія былі прадугледжаны адпаведнаю пастановаю Савету Міністраў СССР. Набліжаецца заканчэньне дзесяцігадовага тэрміну, вызначанага міжнародным правам для звароту ў Міжнародныя арганізацыі са скаргамі, калі краіна, якая нанесла шкоду, не жадае выконваць сваіх абавязкаў. Адмову А.Лукашэнкі ад такога звароту беларускі народ будзе разглядаць як здраду нацыянальным інтарэсам Беларусі.

## ДЭКЛАРАЦЫЯ

### накогт стварэньня Таварыства Беларускай Школы (ТБШ)

**Кожны народ валодае натуральным і жыцьцёва важным правам мець сістэму адукацыі і выхаваньня на сваёй роднай мове. Наш народ шмат гадоў мусіў адстойваць гэтае права перад жорсткаю дыскрымінацыяй беларускае мовы ўвогуле і беларускамоўнай адукацыі ў прыватнасьці. І цяпер, пасьля некалькіх гадоў нацыянальна-культурнага адраджэньня і паступовага стварэньня сістэмы нацыянальнай адукацыі, зноў насталі часы, калі трэба змагацца за права навучаць дзіця ў школе ці слухаць лекцыі ва ўнівэрсітэце па-беларуску. Бацькі школьнікаў, педагогі, студэнты розных гарадоў краіны, якім дарагі лёс новага пакаленьня беларусаў, лёс нашай Бацькаўшчыны і мовы, выступілі з ініцыятывай згуртавацца дзеля адстойваньня канстытуцыйнага права народу на сваю школу.**

Арганізацыйны камітэт ТБШ, які сабраўся 6 лютага 1996 г. у Менску,

**абвяшчае**

пра пачатак стварэньня Таварыства беларускай школы - грамадзкай культурна-асьветніцкай арганізацыі, якая ставіць за мэты:

- абарону права навучаньня па-беларуску ў адукацыйных установах усіх узроўняў і тыпаў;
- дапамогу і спрыяньне беларускамоўным навучальна-выхаваўчым установам у павышэньні іхняга статусу і прэстыжу;
- распрацоўку і ўкараненьне канцэпцыі беларускай нацыянальнай адукацыі, якая прадугледжвае арыентацыю на нацыянальныя і агульначалавечыя каштоўнасьці;
- шырокую асьветніцкую працу.

Таварыства беларускай школы бачыць сябе пераемнікам адраджэнцкай традыцыі ТБШ, якое дзейнічала ў Заходняй Беларусі ў 1921-1937 гадах.

Імкнучыся да найхутчэйшага афармленьня руху за беларускую школу ў агульнанацыянальную арганізацыю, Аргкамітэт ТБШ

**дэкларуе**

- намер дзейнічаць у межах нацыянальнага заканадаўства і нормаў міжнароднага права;
- гатоўнасьць супрацоўнічаць з дзяржаўнымі, грамадзкімі ды іншымі ўстановамі і арганізацыямі ў дасягненьні абвешчаных мэтаў;

**заклікае**

- далучацца да Арганізацыйнага камітэту ТБШ усіх, хто гатовы спрычыніцца да арганізацыйнае працы на папярэднім этапе;
- ствараць суполкі ТБШ сярод бацькоў школьнікаў і выхаванцаў дашкольных установаў, настаўнікаў, выхавальнікаў, выкладчыкаў ВНУ і тэхнікумаў, студэнтаў і навучэнцаў і вылучаць дэлегатаў на Установчы сойм Таварыства беларускай школы, які адбудзецца 23 сакавіка 1996 г. у Менску;
- распачаць шырокае абмеркаваньне ў прэсе мэтаў і задачаў ТБШ ды сродкаў іх дасягненьня:
- тых, хто мае такую магчымасьць - дапамагчы стварэньню ТБШ матэрыяльна.

Выпіскі з пратаколаў наконт вылучэньня кандыдатаў на Установчы сойм просім даслаць на адрас: 220040, г.Менск, вул.Някрасава, 5а, Беларускі Цэнтр гульні і цацкі. Аргкамітэту ТБШ. Тэл. 32-47-01.

Разьліковы рахунак - 3012400000064 у Менскім філіяле N 520 ААБ «Беларусбанк», код 253, з пазнакай «Для ТБШ».

## ЗАЯВА

### Сакратарыята Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны

**Днямі сярэднія школы нашай краіны атрымалі чарговы Зборнік нарматыўных дакумантаў Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь (N 12 за 1995 г.), дзе зьмешчаны Правілы пераводу, арганізацыі экзаменаў і выпуску вучняў агульнаадукацыйных школ Рэспублікі Беларусь, зацьверджаныя загадам міністра адукацыі і навукі.**

Як сьведчыць пункт 27,28 Правілаў, з гэтага году для выпускнікоў уводзіцца новы абавязковы экзамен - руская мова (пісьмова). Дзяржаўная беларуская мова застаецца сярод неабавязковых для здачы дысцыплін у адным шэрагу з мовамі нацыянальных меншасьцяў.

Такі крок Міністэрства адукацыі і навукі Рэспублікі Беларусь на чале з міністрам В.Стражавым паказаў сутнасьць антынацыянальнай і русіфікатарскай дзейнасьці міністэрства. Дзеяньні яго кіраўніцтва цалкам упісваюцца ў шэраг папярэдніх захадаў міністэрства, накіраваных на пасьлядоўнае выгнаньне беларускай мовы з сістэмы школьнай адукацыі. Ідзе поўнае разбурэньне сеткі беларускамоўных школ (у сталіцы, напрыклад, сёньня няма ніводнай цалкам беларускамоўнай школы), спыняецца выданьне падручнікаў на беларускай мове.

Узьнікла пагроза зьнішчэньня усёй нацыянальнай сістэмы адукацыі Беларусі.

Паколькі палітыка Міністэрства адукацыі і навукі груба парушае Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, мы лічым, што Вярхоўны Савет павінен запатрабаваць ад міністра В.Стражава няўхільнага выкананьня адпаведных палажэньняў Асноўнага закону нашай краіны.

Сакратарыят Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны патрабуе адмены ганебнага загаду, увядзеньня абавязковага пісьмовага экзамену па беларускай мове - як выпускнога, так і ўступнага ў ВНУ.

Сёньня Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь - адзіная і рэальная сіла, якая можа спыніць дыскрымінацыю грамадзян Беларусі паводле моўнага прынцыпу.

## 23 САКАВІКА - УСТАНОЎЧЫ ЗЬЕЗД ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ ШКОЛЫ

**6 лютага ў Менску ўтвораны арганізацыйны камітэт па правядзеньні ўстаноўчага зьезду Таварыства Беларускай Школы.**

Першыя арганізацыі ТБШ ужо створаны ў многіх гарадах і раёнах Беларусі, у тым ліку Лідзкая аб'яднаная арганізацыя ТБШ, Гарадзенскае таварыства беларускай вышэйшай школы і іншыя.

Аргкамітэт прызначыў дату зьезду - 23 сакавіка.

У аргкамітэт паступаюць прапановы надаць будучаму Таварыству імя выдатнага асьветніка і змагара за беларускую школу Браніслава Тарашкевіча.

**Станіслаў СУДНІК.**

## 30 САКАВІКА - НАЦЫЯНАЛЬНАЯ НАВУКОВАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ

**Становішча, у якім цяпер знаходзіцца беларуская мова ў нашай краіне, вымагае грунтоўнага асэнсаваньня і аналізу. Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны выступіла з ініцыятывай правядзеньня Нацыянальнай навуковай канферэнцыі «Дыскрымінацыя беларускай мовы ў Беларусі: гістарычны, палітычны і лінгвістычны асьпекты».**

Яе мэта - паказаць, што ўжо больш за 200 гадоў рэалізуецца палітыка зьнішчэньня беларускай мовы. Плануецца вызначыць навуковыя падыходы да распрацоўкі шляхоў паляпшэньня сітуацыі. Канферэнцыю мяркуецца правесьці 30 сакавіка 1996 году ў Менску. Усе зацікаўленыя арганізацыі запрашаюцца да ўдзелу ў падрыхтоўцы канферэнцыі ў якасьці калектыўнага сябра аргкамітэту. На сёньня ў склад аргкамітэту ўвайшлі каля 40 грамадзкіх арганізацый. Сярод іх - беларускі ПЭН-цэнтр, Згуртаваньне беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», Беларуская асацыяцыя ахвяраў палітычных рэпрэсій, Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, Міжнародны жаночы фонд Еўфрасіньні Полацкай, БНФ «Адраджэньне» і інш.

Асобы, зацікаўленыя ў выступленьні, могуць даслаць свае тэзісы (1-2 старонкі).

**Адрас аргкамітэту, 220005, г.Менск, вул.Румянцава,13. Тэл. (0172) 33-25-11.**

 









# УПЕРШЫНЮ З ЧАСОЎ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА

**28 студзеня 1996 году ў Лідзе адбылася ўнікальная падзея. У гэты дзень тут быў асьвечаны ніжні храм праваслаўнай царквы Сьвятога вялікамучаніка і лекара Панцелеймона. Унікальнасьць зьявы ў тым, што тут, упершыню з часоў Вялікага Княства Літоўскага, а дакладней, упершыню з 1589 году быў асьвечаны праваслаўны храм без удзелу прадстаўнікоў Расейскай Праваслаўнай Царквы.**

Канфлікт паміж Лідзкім прыходам сьв.Панцелеймона і епіскапам Навагрдзкім і Лідзкім Канстаньцінам дайшоў да свайго лагічнага завяршэньня. Вернікі прыходу накіравалі ліст у Беларускі экзархат Расейскай Праваслаўнай Царквы за подпісам некалькіх соцень чалавек аб выхадзе парафіі сьв.Панцелеймона з-пад юрысдыкцыі экзархату. Прыход стаў юрыдычна і матэрыяльна аўтаномным. Разам з тым ён пачаў супрацоўніцтва з Сусьветнай Беларускай Патрыярхіяй і Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквой. Па загаду патрыярха Адама ў Ліду былі дастаўлены з Афонскай гары ў Грэцыі мошчы сьв.Панцелеймона. Патрыярх Адам блаславіў настаяцеля царквы айца Васіля на асьвячэньне храма, служэньне праваслаўю і беларускаму народу.

Такім чынам на Беларусі зьявіўся першы прыход Беларускай Праваслаўнай Царквы. Але акрамя яго на шлях выхаду з-пад юрысдыкцыі Беларускага экзархату Расейскай Праваслаўнай Царквы стала да 15 прыходаў.

Супраць іх вядзецца шалёная атака сьвецкіх (чытай «савецкіх») і духоўных уладаў, якія абвінавачваюць іх у расколе і адыходзе ад праваслаўя. Але ці ёсьць тут элемент расколу? Каб адказаць на гэтае пытаньне, зробім невялікі экскурс у гісторыю і геаграфію праваслаўя.

У адрозьненьне ад каталіцкай царквы, якая з самага пачатку ствараласяя як недзяржаўная цэнтралізаваная структура на чале з Папам Рымскім, праваслаўная царква ставаралася ў чацьвёртым стагоддзі Візантыйскім імператарам як дзяржаўны духоўны інстытут. З самага пачатку былі створаны чатыры патрыярхіі: Канстанцінопальская, Александрыйская, Антыахійская і Ерусалімская. Візантыйскі імператар абвяшчаўся Памазанікам Божым, прызначаў і здымаў патрыярхаў, мяняў царкоўныя каноны. Ён зьяўляўся вышэйшым праваслаўным герархам. Канстанцінопальскі патрыярх называўся яшчэ Усяленскім, але ён ня быў галоўным над іншымі, а толькі першым сярод роўных.

Хрышчэньне Русі паставіла пад руку Канстанцінопальскага патрыярха велізарныя абшары. У Кіеве была зацьверджана мітраполія. Уваход Кіева ў склад Вялікага Княства Літоўскага выклікаў рэзкую рэакцыю з боку Масквы і яна прыклала ўсе намаганьні, каб пераманіць Кіеўскага мітрапаліта на сваю тэрыторыю. Праваслаўная царква на Беларусі і Украіне была абязчолена.

Разумеючы значэньне праваслаўя для краіны, Вялікі князь Альгерд дамогся ад Канстанцінопальскага патрыярха прызначэньня новага Кіеўскага мітрапаліта. У 1375 годзе патрыярх прызначыў Кіпрыяна мітрапалітам Кіева і Літвы. Рэзідэнцыяй новага мітрапаліта стаў Наваградак. Пачалася рэлігійная вайна дзьвюх мітраполій. Пераход Ягайлы ў каталіцтва аслабіў пазіцыі праваслаўя ў ВКЛ. Ня маючы сілаў для супраціву, у 1385 годзе Кіпрыян выехаў у Канстаньцінопаль, а ў 1389-м вярнуўся, але ўжо ў Маскву мітрапалітам Маскоўскім. Тым ня менш, яго любоў да Беларусі не прайшла. Ён наведваў ВКЛ і нават падтрымліваў ідэю вуніі на Беларусі, якая б, на яго думку, дала магчымасьць супрацьстаяць і польскаму каталіцтву, і маскоўскаму праваслаўю, а таксама стварыць нацыянальную хрысьціянскую рэлігію.

Усталяваўшы сваю ўладу, вярнуўся да праблем Праваслаўя новы Вялікі князь - Вітаўт. Па яго прапанове сабор заходнерускіх праваслаўных епіскапаў выпучыў у 1414 годзе на пасаду мітрапаліта Кіеўскага Рыгора Цамблана. Але Канстаньцінопальскі патрыярх, падкуплены Маскоўскім мітрапалітам Фоціем, не зацьвердзіў яго. Тады сабор заходнерускіх епіскапаў 15.11.1415 году, не зважаючы на анафемы Канстанцінопальскага патрыярха і Фоція, зацьвярджае Цамблана Мітрапалітам Кіеўскім і Літоўскім. Мітрапаліт Рыгор стаў у 1415 годзе першым самастойным беларускім мітрапалітам. Ён адкрыў сваю катэдру ў Вільні, а рэзідэнцыю зрабіў па традыцыі ў Навагрдку.

У 1439 годзе, скарыстаўшыся з аслабленьня Візантыі, Маскоўская Праваслаўная Царква адмовілася падпарадкоўвацца Канстаньцінопальскаму патрыярху. Першым самастойным Маскоўскім мітрапалітам стаў у 1448 годзе Іона.

У 1453 годзе Візантыя пала. Праваслаўныя патрыярхі заявілі пра сваю аўтакефальнасьць. Такім чынам, утварыліся чатыры аўтакефальныя патрыярхіі: Канстаньцінопальская, Александрыйская, Антыахійская і Ерусалімская, таксама некалькі самастойных мітраполій, у тым ліку Маскоўская і Навагрдзкая.

Змаганьне паміж Маскоўскай і Навагрдзкай мітраполіямі было непазьбежным, але ішло ў няроўных умовах. Маскоўская мітраполія карысталася ўсебаковай падтрымкай вялікіх князёў і ўсёй краіны. Навагрдзкая трымалася на сіле духу вернікаў, цярпела ўціск каралёў і каталіцтва. Таму, калі ў 1589 годзе Масква зрабіла чарговы ход -увяла пасаду патрыярха, - Навагрдак ня змог нічым адказаць на гэта. Праваслаўная царква ВКЛ зноў трапіла ў залежнасьць ад Масквы.

У 1721 годзе Пётр І ліквідаваў пасад патрыярха і заснаваў Сьвяты Урадавы Сінод. У 1917 годзе пасада патрыярха была адноўлена.

Працэсы аўтанамізацыі і аўтакефалізацыі ішлі і ў іншых цэрквах. Аўтакефальнымі сталі большасьць нацыянальных цэркваў. У 1947 годзе іх было 14. Сёньня іх 24. Гэта: Канстаньцінопальская, Александрыйская, Антыахійская, Ерусалімская, Расейская, Грузінская, Сербская, Румынская, Балгарская, Сусьветная Беларуская Амерыканская, Украінская. Усе яны маюць патрыярхаў. Далей ідуць: Кіпрская, Эладзкая (Грэцыя), Албанская, Польская, Чэхаславацкая, Расейская замежная, Украінская замежная, Амерыканская, Фінская, Японская, Македонская, Эстонская. Беларуская Аўтакефальная, Фінская Праваслаўная царква падпарадкоўваецца Канстаньцінопальскаму патрыярху, Японская - Маскоўскаму. Такім чынам, праваслаўны вернік можа належаць да любой з гэтых цэркваў і быць праваслаўным. Гэта ня значыць абавязкова падпарадкоўвацца Маскоўскаму патрыярху.

Абсалютная большасьць праваслаўных цэркваў носіць ярка выражаны нацыянальны і дзяржаўніцкі характар. Гэта поўнасьцю адпавядае канонам праваслаўя. Таму пасьля падзелу СССР востра паўстала пытаньне пра праваслаўную нацыянальную царкву амаль для кожнай новай дзяржавы. Украіна і Эстонія гэтую задачу ўжо вырашылі. Але гэта ніяк не супадае з інтарэсамі Масквы.

Прызнаньне Канстаньцінопальскім патрыярхам Украінскай Праваслаўнай Царквы выклікала ледзь не разрыў паміж ім і патрыярхам Маскоўскім. Масква рукамі і нагамі будзе трымаць кожны прыход, кожную епархію, асабліва такую багатую, як Беларусь.

Сёньня на Беларусі 10 епархій, 788 царкоўных прыходаў, 5 кляштараў, духоўная семінарыя, духоўнае вучылішча. Каб не дапусьціць выдзяленьня беларускіх епархій, яна пускаецца на розныя хітрасьці. Так у 1989 годзе быў створаны Беларускі экзархат Расейскай Праваслаўнай Царквы, які, як бы незнарок, называюць Беларускай Праваслаўнай Царквой. Але ж гэта - звычайнае махлярства. Ніколі гэты экзархат не клапаціўся і ня будзе клапаціцца пра беларусаў і Беларусь.

Тэрмінова быў пераведзены ў Расею шэраг нацыянальна сьвядомых сьвятароў, а сюды кінуты расейцы. Так, у Ліду ўмудрыліся прыслаць нават адстаўнога падпалкоўніка, былога нампаліта вайсковай часткі, які, напэўна, дагэтуль хавае недзе партыйны білет. Да гонару лідзян яны такога «сьвятара» не пусьцілі нават на царкоўны двор. Антыбеларускім духам прасякнута атмасьфера Жыровіцкай семінарыі.

Гэты перадавы атрад расейскіх імперскіх сілаў зробіць усё, каб не дапусьціць стварэньня сапраўднай Беларускай Праваслаўнай Царквы, якая б служыла беларускаму народу і Беларускай краіне, а не маскоўскім чыноўнікам.

Робячы высновы з усяго сказанага, мы і падыйдзем да адказу на асноўнае пытаньне, ці ёсьць элемент расколу і адыходу ад праваслаўя ў дзеяньнях прыходу сьв.Панцелеймона ў Лідзе. Не, і яшчэ раз не. Вернікі гэтага прыходу дзейнічаюць больш строга і больш адпаведна канонам праваслаўя, чым епіскапы ад Масквы. Раскол чыняць тыя, хто хоча пазбавіць беларуса права маліцца Богу без указкі з Масквы. Але гэтае права кожнаму чалавеку Богам дадзенае, і ніякі, хоць самы важны, масковец яго не адбярэ.

Сёньня Лідзкі прыход сьв.Панцелеймона на пярэднім краі супрацьстаяньня імперскім сілам. Сітуацыя абвастраецца яшчэ і тым, што храм сьв.Панцелеймона - адзіны на 60-тысячную праваслаўную Ліду, дзе можна ўзяць шлюб ці пахрысьціць дзіця. Так званая Сьвята-Георгіеўская царква - не што іншае, як звычайная капліца, пабудаваная алтаром на поўнач і прызначаная толькі для адпяваньня нябожчыкаў. Ды і стаіць яна на могілках. Толькі вельмі абыякавы і бязьверны чалавек можа вянчацца ці хрысьціць дзяцей на могілках.

Пачынаючы з 3 лютага па Лідзе пачалі распаўсюджваць чуткі, што айцец Васіль пазбаўлены сану мітрапалітам Філарэтам. Ці праўда гэта, ці не - лідзянам ўсё роўна, гэтыя чуткі выклікалі толькі сьмех.

11 лютага ў храме сьв.Панцелеймона вянчаліся першыя дзьве пары.

Першая на Беларусі праваслаўная беларуская царква пачынае жыць паўнапраўным жыцьцём.

**Станіслаў СУДНІК.**

# ЧАТЫРЫ ТЫСЯЧЫ ДОЛАРАЎ ЗА ТЫДЗЕНЬ

Працэс пабудовы «рынкавага сацыялізму», як сьведчаць факты, надзвычай даспадобы прыйшоўся злодзеям.

Напрыклад, тысячам выкінутых з «запушчаных» прадпрыемстваў людзей махляры рознага кшталту сёньня прапануюць разнастайную працу, прычым за зарплату, якая і ня сьнілася нават. Самыя распаўсюджаныя віды падману - «работа на дому» і «работа за границей». Прычым працоўць «работадаўцы» высокапрафесійна: для таго, каб атрымаць «работу на дому» з аплатай ад 300 долараў і вышэй, з фірмаў «Дронт» ці «Праст», ці ад якіх-небудзь «Рагоў ці капытоў» (назва ня мае вялікага значэньня) вам прыйдзе адказ накшталт:«...каб распачаць працу, вам неабходна аплаціць рэгістрацыйны ўклад у памеры 16 550 рублёў, які кампенсуе выдаткі па перасылцы дакументацыі для пачатку вашай працы. Грашовы пералік высылаць на адрас нашага прадстаўніка».

Адрас прадстаўніка - паштовая скрыня, куды сьцякаюцца сотні тысяч рублёў ад людзей, якія сёньня гатовыя ўчапіцца за любую саломіну. Адказу чакаць ня варта, як ня варта і шукаць надалей фірму і прадстаўніка, якія праз месяц дзейнасьці зьнікаюць бясьсьледна, набіўшы кішэні грашыма.

У адрозьненьне ад апісанага вышэй падману, з прадстаўленьнем працы за мяжой справа пастаўлена на яшчэ больш высокі ўзровень. Цэлы шэраг фірмаў працуе сапраўды сумленна, таму злодзеяя вылічыць вельмі цяжка. Напрыклад, у сьнежні мінулага году адпаведныя органы зацікавіліся дзейнасьцю нейкага Бадзіна, дырэктара фірмы «Мірана». Высьветлілася, што гэты спрытны кіраўнік без адпаведнай ліцэнзіі «вярбаваў» ахвочых падзарабіць грошай дзе-небудзь у Нямеччыне ці Грэцыі. Офіс, ветлівасьць, сьпецыяльныя анкеты ўнушалі давер больш чым паўсотні гарадзенцаў, якія заплацілі Бадзіну па 70 долараў за «паслугі».

За тыдзень «прадпрымальны» дырэктар набраў больш чатырох тысячаў «зялёных». Далей было б больш, але своечасова за каўнер схапіла міліцыя...

Такіх прыкладаў можна было б прывесьці шмат. У краіне створаная добрая глеба для эканамічных злачынстваў. На зьмену п'янаму трактарысту Івану, які ўлез у вясковую краму за «пахмелкай», прыходзіць Іван Іванавіч у шыкоўным касьцюме, пад гальштукам ды з сакратаркай у прыёмным пакоі. У мінулым годзе за зьдзяйсьненьне эканамічных злачынстваў у вобласьці да крымінальнай адказнасьці было прыцягнута больш 300 адказных асобаў...

**В.ЛЮДВІКОВІЧ.**

## НЯ ТРЭБА ВОЛІ, МОВЫ І, НАВАТ, ЗЯМЛІ

Ну, што да волі і мовы, то тут зразумела. А вось зямля? І тым ня менш... У Суботніцкім сельсавеце Івеўскага раёну за час дзеяньня Закону «Аб зямлі і праве ўласнасьці на зямлю» пажадалі выкупіць па гектару ў асабістае карыстаньне толькі два чалавекі. Астатнім «ня трэба».

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## ЛІДА КАЖА «НЕ» ПРЫВАТЫЗАЦЫІ

**Чарговы, чацьвёрты аўкцыён па продажу камунальнай уласнасьці ў Лідзе, які быў прызначаны на 6 лютага не адбыўся. На два магазіны, сталовую, кавярню і права арэнды памяшканьня не паступіла ніводнай заяўкі.**

У аддзеле прыватызацыі Лідзкага гарвыканкаму гэта тлумачаць высокімі стартавымі цэнамі. У калякамерцыйных колах гавораць пра боязь прадпрымальнікаў ва ўмовах палітыкі Лукашэнкі на ўдушэньне малога і сярэдняга бізнэсу страціць і грошы, і маёмасьць пасьля якога-небудзь чарговага ўказу «бацькі». Указавае беззаконьне не стымулюе бізнесмэнаў. Адыгрывае сваю ролю і поўная няўпэўненасьць, што ва ўмовах сучаснага падаткавага прэсінгу ўдасца атрымаць з купленых аб'ектаў хоць нейкі прыбытак.

**Станіслаў СУДНІК.**

## ВОСЬ У ЧЫМ ПРЫЧЫНА

Днямі Ліду наведалі намесьнік генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь В.Юрэвіч і пракурор Гарадзенскай вобласьці Л.Цярэшчанка. Прааналізаваўшы дзейнасьць мясцовых праваахоўных органаў, госьці выказалі незадаволеньне, што мясцовая пракуратура месьціцца ў малапрыстасаваным будынку. Будуць шукаць сродкі, каб пабудаваць у Лідзе добрае памяшканьне для міжрайпракуратуры.

Сапраўды, у Лідзе будынак пракуратуры перад новым Палацам правасуддзя выглядае, як жабрак перад панам. Таму не чакайце, лідзяне, новы радзільны дом. Тым больш, што ўсёроўна нараджальнасьць падае, а злачыннасьць расьце.

**Яраслаў ГРЫНЬКЕВІЧ.**

## КДБ НЯ СЬПІЦЬ. НАЙЛЕПШ ПРА ГЭТА ВЕДАЮЦЬ БАНКІРЫ

За мінулы год па матэрыялах гарадзенскага КДБ былі ўзбуджаныя крымінальныя справы ў дачыненьні дырэктара гарадзенскага аддзяленьня «Віткамбанку» Асіпенкі, дырэктара гарадзенскага абласнога ўпраўленьня акцыянернага банку «Беларусь». У студзені гэтага году быў арыштаваны вядучы эканаміст Нацыянальнага банку. Ёсьць «ахвяры» і сярод супрацоўнікаў «Прыорбанку».

Падобна на тое, што арганізаваная на вышэйшым узроўні кампанія барацьбы з наступствамі «эры Багданкевіча» у банкаўскай сістэме пачала даваць вынікі. Апагеем яе павінна стаць караваньне першага прэзідэнта тытулам «першага банкіра» краіны, пра што недвусэнсоўна было заяўлена 11 лютага на нарадзе А.Лукашэнкі з прадстаўнікамі Аграпрамкомплексу.

**В.М.**

## ЧАРГОВЫ РАЗ БЕЛАРУСАЎ АБУЛІ Ў ЛАПЦІ

**У 1994 годзе арэндны будаўнічамантажны трэст N 41 г.Смаргонь выконваў будаўнічыя работы для адной з расейскіх вайсковых частак у г.Балагое. Але разьлічвацца за выкананыя работы вайскоўцы не сьпяшаюцца. А доўг застаўся вялікі - каля 500 мільёнаў расейскіх рублёў.**

На запыт з Беларусі аб разьліках намесьнік міністра абароны Расейскай Федэрацыі генерал-палкоўнік А.Саламацін пісьмом ад 23.06.95 N 143/217/9 на імя намесьніка прэм'ер-міністра Рэспублікі Беларусь М.Мясьніковіча паведаміў, што фінансаваньне капітальнага будаўніцтва Міністэрства абароны вядзецца незадавальняюча, а таму разьлічыцца з трэстам пакуль што немагчыма, але меры прымаюцца.

Якія? Мяркуйце самі. Расея, аказваецца, мае грошы на будаўніцтва, але не абы чаго, а аб'ектаў утаймаваньня чачэнскага народу. У канцы 1995 году трэсту было прапанавана будаўніцтва яшчэ ў адной вайсковай частцы. На гэты раз у Грозным. І разьлікі з трэстам за першы месяц работы 25-ці беларускіх хлопцаў праведзены спаўна і своечасова.

А як жа з запазычанасьцю за работу ў горадзе Балагое? Па ўсім відаць, Міністэрства Абароны Расеі разьлічыцца пасьля вайны, калі да таго часу канчаткова не збанкрутуе на чачэнскіх капіталаўкладаньнях.

**А.ДЗЕРГАЧОЎ.**

 

# СУМЕЖЖА

## ЧАЧЭНСКІЯ ГЕРОІ АБАРАНЯЮЦЬ БАЦЬКАЎШЧЫНУ І СВАБОДУ

**Усе добрыя людзі з перажываньнем і болем сочаць за падзеямі страшнай расейска-чачэнскай вайны, адчуваючы сваё бясьсільле паўзьдзейнічаць на акупантаў, каб спыніць злачынную бойню і зьнішчэньне чачэнскага народу. Толькі што расейскія тэрарысты, прымяніўшы танкі, артылерыю, самалёты, верталёты, ракетныя ўстаноўкі «Град», поўнасьцю зьнішчылі дагестанскі пасёлак «Першамайскі» (сапраўднай назвы ня ведаю), забілі шмат мірных людзей. Якія назіраньні і высновы можна зрабіць з гэтых падзей і з усяго таго, што адбываецца на паўночным Каўказе?**

1. Расея праводзіць тыповую для яе каланіяльную вайну з характэрнымі для гэтай імперыі жорсткасьцю, бесчалавечнасьцю і вераломствам. Падзеі зноў пацьвердзілі крымінальны характар гэтай краіны, яе тэрарыстычнай арміі і кіраўніцтва, якое зрабіла заложнікамі ўвесь чачэнскі народ.

Нагадаю, што група чачэнскіх салдат (прыблізна 200 чалавек) павінна была ажыцьцявіць зьнішчэньне расейскага вайсковага аэрадрому ў Дагестане (горад Кізьляр), адкуль рабілі налёты на Чачню, бамбілі чачэнскія паселішчы і гарады. (У чачэнцаў няма ні авіяцыі, ні супрацьпаветранай абароны і зброі.) Аднак расейскія «спецслужбы», даведаўшыся пра чачэнскую аперацыю, вывелі тэхніку з аэрадрому. Калі чачэнцы прыйшлі, то ўбачылі толькі тры рускія верталёты, якія яны і зьнішчылі. Аднак чачэнцы трапілі ў падрыхтаваную пастку. Тады яны захапілі заложнікаў і прадыктавалі свае ўмовы. З расейскімі і дагестанскімі ўладамі дамовіліся, што чачэнцаў разам з заложнікамі прапускаюць да чачэнска-дагестанскай мяжы. Там чачэнцы адпускаюць заложнікаў і вяртаюцца ў Чачню.

Аднак расейскія «стратэгі» вераломна парушылі ўсе пагадненьні і на мяжы напалі на калёну з паветра, абстралялі яе і скінулі дэсант. Чачэнцы разам з заложнікамі адыйшлі ў дагестанскае сяло «Першамайскае» і занялі там кругавую абарону. Тым часам да сяла «Першамайскага» была сьцягнута велізарная вайсковая сіла ў некалькі тысячаў чалавек з авіяцыяй, артылерыяй, танкамі, бронемашынамі і іншай тэхнікай. Сюды сьцягнулі ўсё лепшае, што было ў расейскай арміі, лепшыя («элітныя») часткі: «Альфу», «Віцязь», розныя «сьпецназы», узорныя армейскія падразьдзяленьні і г.д. Была пастаўлена задача зьнішчыць акружаных чачэнцаў любымі сродкамі і любым спосабам, чаго б гэта ні каштавала. Дамоўленасьці, абавязкі перад уладамі Дагестана, пасёлак, жыхары пасёлка, заложнікі ў разьлік не прымаліся. На іх адразу быў пастаўлены крыж. Расейскім ваенным чынам, расейскаму кіраўніцтву і расейскаму прэзідэнту (напярэдадні выбараў) патрэбная была перамога ці хаця б бачнасьць яе любой цаной. А паколькі ў імперскай Расеі чалавечае жыцьцё ніколі нічога не каштавала, то пра дагестанскіх заложнікаў расейская ваеншчына і кіраўніцтва ня думалі і не клапаціліся.

Журналістаў ад падзеяў ізалявалі, а афіцыйная прапаганда паведаміла, што ўсе заложнікі нібыта ўжо забітыя чачэнцамі, што быццам бы давала магчымасьць бамбардаваць і штурмаваць пасёлак «Першамайскі». Аднак расейская вайсковая перавага, расейская страшная зброя і адборныя элітныя часткі аказаліся бясьсільнымі зламаць супраціўленьне чачэнскіх герояў і дагестанскіх заложнікаў. (Заложнікі, даведаўшыся, што іх прадалі і асудзілі на сьмерць, дапамагалі чачэнцам. Некаторыя са зброяй у руках.)

Бой цягнуўся амаль тыдзень. Адборныя расейскія часткі пакінулі на полі бою горы сваіх трупаў. Вось тады яны і зьмялі з твару зямлі пасёлак «Першамайскі», прымяніўшы ракетныя ўстаноўкі «Град». Пасьля агня «Градаў» не застаецца нічога жывога і ніхто ня можа ўратавацца. Васьмідзесяцікілаграмовыя ракеты, якія ляцяць пачкамі адразу па сорак штук, зьнішчаюць усё. І тым ня менш, палова чачэнскага атраду і заложнікаў ня толькі ўратавалася, але, прарваўшы трайное акружэньне, з боем выйшла ў Чачню. Гераізм гэтых людзей, што змагаюцца за свабоду Айчыны, і высокі баявы ўзровень чачэнскіх салдатаў уражвае.

2. Падзеі ў Дагестане яшчэ раз пацьвердзілі, што ўсе народы для Расейскай імперыі, усе лёсы паняволеных народаў, гэтак жа, як і жыцьці асобных людзей, ня маюць ніякага значэньня перад інтарэсамі імперыі, а ў дадзеным выпадку — яшчэ і перад інтарэсамі расейскага нафтавага капіталу.

Нагадаю, што калі групай Басаева былі захопленыя расейскія заложнікі ў расейскім горадзе Будзёнаўску, на расейскай тэрыторыі, то калёну з заложнікамі прапусьцілі, захопленых рускіх не зьнішчалі і «Градам» рускія паселішчы не разбуралі.

Дагестанцы для расейскіх генералаў — гэта ж ня рускія, дагестанскія заложнікі для іх жа ня людзі, ці, дакладней, людзі іншага гатунку. Навошта клапаціцца пра іх вызваленьне ці пра жыцьцё нейкіх там нярускіх у пасёлку «Першамайскі»! «Градам» па іх і па іх дамах, па іх маёмасьці і па іх каровах. Злачыннасьць і подласьць гэтых імперскіх генералаў і ўладных кіраўнікоў таксама ўражвае.

3. Трагедыя ў Дагестане яшчэ раз пацьвердзіла (і для нас гэта асабліва важна зразумець), што дзеля ажыцьцяўленьня імперскіх інтарэсаў, дзеля ўтрыманьня ўлады і капіталу, дзеля захопу чужых тэрыторыяў і маёмасьці Расея ішла на ўсё і пойдзе на ўсё: на самае кашчуннае вераломства, на самае жорсткае злачынства. Скопішча зла ня спыніцца ні перад чым, нават (калі пачуе пагібель) перад ужываньнем ядзернай зброі і трэцяй сусьветнай вайной.

4. Падзеі ў «Першамайскім» яшчэ раз выразна паказалі амаральнасьць і цынізм імперскай, ці, як яны сябе цяпер называюць, «дэмакратычнай», улады ў Расеі (хоць большасьць там цяперашнія і былыя камуністы).

У той час, калі пад расейскімі бомбамі, ракетамі і кулямі гінулі дагестанскія заложнікі і жыхары пасёлка «Першамайскі», у рускай Думе і прэзідэнцкай адміністрацыі дзялілі партфелі, палітыканствавалі, жартавалі, сьмяяліся, рагаталі і няшчадна лгалі свайму народу і ўсяму сьвету.

Злачынства ў «Першамайскім» яшчэ раз паказала ўсяму сьвету характэрна-азіяцкую сутнасьць расейскай імперскай хлусьні. Гэта ўжо ня толькі палітыка, а цэлы сьветапогляд, які некалі слаўна скарысталі бальшавікі. Масква ня верыць сьлязам, і ніколі ні ў чым нельга верыць Маскве.

5. Расейская тэрарыстычная аперацыя ў сяле «Першамайскім» паказала ўсю гніласьць, бездапаможнасьць, небаяздольнасьць і маральнае раскладаньне ўзброенай да зубоў расейскай арміі і ў цэлым імперскай ваеннай машыны. Сьвет павінен зразумець, што такая дэмаралізаваная ваеншчына, якая валодае зброяй масавага зьнішчэньня і выхаваная на чванлівай імперскай ідэі, уяўляе вялікую пагрозу міру ў Расеі і ва ўсім сьвеце.

6. Расейска-чачэнская каланіяльная вайна і асабліва падзеі ў былым сяле «Першамайскім» паказалі ўсім, што народ, які з верай у сваю зямлю самаахвярна змагаецца за жыцьцё і свабоду бацькаўшчыны, непераможны. Ён выяўляе цуды гераізму, здольны перамагаць.

Расейскія журналісты, апраўдваючыся за паражэньне арміі, занадта завысілі крытыку «бяздарнасьці» генералаў. Калі расейская ваеншчына перамагае (нават калі піравым мэтадам), тады — «наши доблестные воины». Калі ж яна церпіць паражэньне (і, як правіла, ад малых сілаў), тады аказваецца, што армія была разута, разьдзета, салдаты галодныя, а генералы бяздарныя. Так было ў Цусіме, пад Порт-Артурам, пад Варшавай, так і ў Чачні пад «Першамайскім». «Альфа» ёсьць «Альфа», «Віцязь» ёсьць «Віцязь», а адборная ўкамплектаваная армія ёсьць армія. Сітуацыя паказала, што прафесійныя сьпецыяльна падрыхтаваныя забойцы з «Альфы» бездапаможныя перад людзьмі, якія горача любяць свабоду сваёй радзімы і гатовыя дзеля яе на сьмерць. «Альфы» і «Віцязі», схаваўшыся ў маскі, могуць пасьпяхова зьбіваць толькі безабаронных дэпутатаў парламанту і ваяваць з мірным насельніцтвам, якое выйшла на мітынгі і забастоўкі. Міф пра нібыта «звышсалдат» разьвеяўся.

Расейская акупацыя Чачні, бесчалавечнасьць, жорсткасьць, масавыя бамбардзіроўкі і зьнішчэньні паселішчаў, прымяненьне хімічнай зброі, генацыд — усё гэта выклікала адчайнае супраціўленьне чачэнцаў, захопы заложнікаў і іншыя дзеяньні. Расейская прапаганда фальшыва спрабуе абвінаваціць чачэнцаў у тэрарызьме. Але сапраўдным шырокамаштабным тэрарыстам зьяўляецца якраз расейская дзяржава — яе кіраўніцтва і ўзброеныя сілы. Расейская прапаганда зьняважліва абзывае чачэнскіх салдатаў і абаронцаў бацькаўшчыны бандытамі. Але тыповымі міжнароднымі бандытамі зьяўляюцца якраз акупацыйныя расейскія войскі ў Чачні. Чачэнцы ў сябе дома, а бандыты ўварваліся ў іх дом, зьнішчаюць іх вёскі і гарады, забіваюць і рабуюць мірнае насельніцтва.

Чалавек, якога забіваюць, мае права на абарону любымі сродкамі. Калі ён пры гэтым, ратуючы сваё жыцьцё і апынуўшыся ў безвыходным становішчы, заб'е забойцу, суд яго апраўдае, згодна закону. Паўтараю, чалавек мае права на абарону свайго жыцьця, калі яго забіваюць. Гэтак і народ. Чачэнцаў зьнішчаюць ужо дзьвесьце гадоў. Бальшавікі ажыцьцяўлялі генацыд Чачні, выганялі чачэнцаў з іх зямлі, вывозілі ў Азію, у пустыню. Але яны вярнуліся і акрыялі. Цяпер іх забіваюць зноў. Зьнішчаюць, разбураюць іх зямлю. У гэтых умовах чачэнцы маюць права на любую абарону свайго народнага існаваньня, свайго жыцьця.

Ва ўмовах, калі на тэрыторыі Чачні знаходзіцца акупацыйная расейская армія і Расея вядзе бесчалавечную, жорсткую каланіяльную вайну з Чачнёй, вайну на зьнішчэньне, гаварыць пра «тэрарызм» тых, хто бароніць сваё жыцьцё, гаварыць пра недапушчальнасьць захопу заложнікаў — бессэнсоўна.

Выведзіце сваю тэрарыстычную армію з Чачні, спадары расейскія дзяржаўныя палітыкі, і перастаньце забіваць чужы вам народ. Ён мае натуральнае Боскае права на свабоду сваёй зямлі. І вось калі і пасьля гэтага яны захопяць вашых заложнікаў, тады абвінавачвайце. На жаль, Афганістан нічаму не навучыў міжнародных бандытаў.

Праз некалькі дзён пасьля чарговага злачынства расейскай ваеншчыны на Каўказе Расею прынялі ў Савет Эўропы. Змрочнае ўражаньне пакідае гэты клуб эўрапейскіх палітыкаў. Кажуць, Эўропа без ідэалогіі. Усёабдымнай, трансцэндэнтнай ідэалогіяй эўрапейскай палітыкі заўсёды было і застаецца рафінаванае філісьцёрства. Яно прывяло да Першай сусьветнай вайны, да другой, да аншлюсаў... Прывядзе і да трэцяй. Пад пустазвонныя прамовы пра правы чалавека і дэмакратыю. Эўропа, павесіўшы сабе стопудовы камень на шыю ў выглядзе Расеі, проста адвярнулася ад лёсу Чачні. Вядома ж, для Эўропы Расея ня Сербія, а таму і Чачня ня Босьнія. Філісьцёрскі двайны стандарт тут відавочны.

Для нас, беларусаў, усё гэта вельмі важна бачыць, ведаць і разумець. Расея праз сваіх стаўленікаў у вышэйшай выканаўчай уладзе на Беларусі вядзе ў нас халодную вайну. Тут крыху іншыя метады, чым у Чачні, але мэта тая ж — вынішчэньне беларускай нацыі, мовы, культуры, памяці, сьвятынь, захоп нацыянальнай маёмасьці, інфраструктуры, улады, кантроль над тэрыторыяй і рэсурсамі, ліквідацыя беларускай дзяржавы.

І гісторыя, і вопыт, і сітуацыя, і падзеі ў Расеі, у Эўропе і сьвеце паказваюць, што няма іншага шляху, як усім грамадзтвам бараніцца, палітычна змагацца, яднацца вакол беларускай ідэі, клапаціцца пра свае нацыянальныя і жыцьцёвыя інтарэсы, пра сваю дзяржаву і яе незалежнасьць, пра нашу нацыянальную ўласнасьць, беларускую мову, школу, культуру, мастацтва, цэрквы і касьцёлы, пра свой народ і саміх сябе.

**Зянон ПАЗЬНЯК.**

## ХТО АДКРЫЎ АМЕРЫКУ?!.

**Гаворачы пра Амерыку, вы, вядома, скажаце: «Гэтая частка сьвету была адкрыта Калумбам у 1429 годзе». Аднак, ня ўсе гісторыкі і дасьледчыкі падзяляюць гэтую думку. Некаторыя з іх сьцьвярджаюць, што Амерыка была адкрыта задоўга да Калумба. Вось, напрыклад, што гавораць на гэты конт кітайцы.**

Старая (старажытная) мексіканская цывілізацыя, існаваўшая да прыбыцьця Калумба, мела вельмі шмат агульнага з кітайскай культурай. Напрыклад, абодва народы (кітайцы і індзейцы) верылі, што існуюць страшныя жывёлы-драконы, у якіх з пашчы вырываецца агонь. Свае ўяўленьні яны малявалі на сьценах пячораў, на зямлі, а таксама на паперы. І тыя і тыя для прыгатаваньня ежы ўжывалі гаршкі, якія мелі тры ножкі і, такім чынам, стаялі на зямлі. Іх вераваньні ў дачыненьні да дажджу таксама былі вельмі падобнымі. Акрамя таго, пры пахаваньні ў магілу разам з памерлым чалавекам клалі жывога, каб прыслужваў яму ў іншым жыцьці. І ўдадатак да ўсяго трэба сказаць, што як кітайцы, так і індзейцы ўжо ў тыя часы маглі вырабляць паперу. Гэта ўсё схіляе шматлікіх усходніх гісторыкаў і дасьледчыкаў да думкі, што падабенства гэтае небясспрэчнае. Фактычна, некаторыя сьцьвярджаюць, што Амерыку яшчэ перад Калумбам адкрыў кітаец, звалі якога Гуісэн. Быў ён будыйскім манахам і жыў у пачатку 5-га стагоддзя нашай эры.

Па гэтай тэорыі, манах Гуісэн з яшчэ чатырма будыйскімі манахамі пераплылі на веславым судне Ціхі акіян і дасягнулі краіны, якую яны назвалі «Гара Буды». Там, згодна з запісамі Гуісэна, яны ўбачылі нейкія «дзіўныя расьліны» з фруктамі ружовага колеру, якія можна было есьці. З лістоў гэтых расьлін можна было рабіць паперу і аддзеньне. Без сумневу, гэтай «дзіўнай расьлінай» была агава - вялікая шматгадовая расьліна, якую сёньня можна ўбачыць у Мексіцы. Там і сёньня жыхары ўжываюць парасткі агавы ў ежу, а з яе лістоў сапраўды робяць паперу.

Такім чынам, адкрыцьцё Калумбам Амерыкі, аб чым нам усім казалі ў школе, здаецца сур'ёзна пастаўлена пад сумнеў.

**Генадзь КУРГУН,**
**старшыня гарадзенскага эсперанта-клуба.**

## НЕМЦЫ НАВУЧАЦЬ ЖЫЦЬ?

**З сакавіка гэтага году 2000 кватэр старога і новага Паўднёвых гарадкоў у Лідзе плануецца перадаць на абслугоўваньне нямецкай фірме «Кансальт Цім», дакладней сумеснай кампаніі «Наш дом». Гарадкі выходзяць з-пад крыла ЖЭС і перадаюцца на абслугоўваньне прыватнай кампаніі.**

Але памыляюцца тыя, хто мяркуе, што зараз на іх абрынецца плынь дабротаў і выгодаў. Найпершая задача кампаніі - прывіць нашым людзям цывілізаваныя спосабы карыстаньня жыльлём.

У той жа час «Наш дом» хоча стварыць такія ўмовы, каб кожны гараджанін мог атрымаць любыя камунальныя паслугі ў любы час.

Зараз праводзіцца анкетаваньне жыхароў гарадкоў. Ня выключана, што саўковы народ і адмовіцца ад паслуг: не дамо немцу і сьметнік, як не далі «Лідсельмаш».

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## РАМ ЧАНДРА ДАЕХАЎ ДА АШМЯН

Вядомы індыйскі падарожнік Рам Чандра Бісвас, як ужо паведамляла «ПАГОНЯ», працягвае падарожжа па Беларусі на сваім славутым ровары. Днямі вандроўнік наведаў Ашмяны. Ашмянцы абдарылі падарожніка шматлікімі сувенірамі, а начальнік ашмянскай міліцыі І.Радзевіч засьведчыў пячаткай у сьпецыяльным альбоме, што Рам Чандра пераадолеў 374 459 кіламетраў. У гэтым альбоме адзнакі паліцыі ўсіх краінаў, дзе пабыўваў Чандра.

З Ашмянаў індыйскі падарожнік накіраваўся ў Прыбалтыку.

**Вацлаў СЯРПІНСКІ.**

## САМАГОНШЧЫКІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

Днямі супрацоўнікі Лідзкай міліцыі выявілі бровар ледзь ня ў цэнтры горада. І, хоць у Лідзе самагонка не ў навіну, тут прыйшлося падзівіцца, бо добра абсталяваны бровар трымалі ўкраінцы. Расьсьледаваньнем дзейнасьці міждзяржаўнага «сумеснага прадпрыемства» па перапрацоўцы ўкраінскага сьпірту ў нешта беларускае займаюцца адпаведныя ворганы.

**Зьміцер СЬВІСТУНОВІЧ.**

## ДАСЬЛЕДАВАНЬНІ

# МІРСКІ ЗАМАК — ВЕСЬНІК АДРАДЖЭНЬНЯ БЕЛАРУСІ

**Вераніка Кудраўцава — прафесійны астролаг, дырэктар менскай астралагічнай фірмы «АША», віцэ-прэзідэнт Міжнароднай авестыйскай школы астралогіі. Нядаўна яна выпусьціла кнігу «Весьнік адраджэньня», у якой астралагічнымі метадамі дасьледавала Мірскі замак. Думаецца, гэта праца выкліча цікавасьць і ў нашых чытачоў. З Веранікай Кудраўцавай вядзе размову журналіст Уладзімір Семянцоў.**

***— Вераніка Іванаўна, чаму вы прысьвяцілі сваё дасьледаваньне — а яно працягвалася некалькі гадоў — менавіта Мірскаму замку?***

— Цікавасьць да гэтага помніка гісторыі і архітэктуры невыпадковая. Старажытныя прадказаньні сьцьвярджаюць, што Беларусь павінна хутка адрадзіцца і стаць цэнтрам духоўнага адраджэньня ўсіх славянскіх народаў. Ілюстрацыяй гэтага адраджэньня павінна стаць адраджэньне менавіта Мірскага замку, якое пачалося некалькі гадоў назад. Замак вельмі цесна зьвязаны з лёсам нашай краіны. Калі ён перажываў росквіт, то і Беларусь квітнела, а яго разбурэньне прыносіла нашаму народу беды. Ад таго, як ідзе рэстаўрацыя ў Міры, у многім будзе залежаць і беларускае адраджэньне.

***— Вы называеце дакладную дату ўзьнікненьня замку. Чым вы кіруецеся?***

— Мірскі замак узьнік на мяжы XV-XVI стагоддзяў. Касьмічнае ўключэньне яго адбылося ў 11 гадзін 43 мінуты 22 кастрычніка — па новаму стылю - 1503 году. Гэту дату можна назваць днём нараджэньня.

Гэта выдатная пабудова на беразе рэчкі разьмешчана на тэрыторыі, якая адпавядае энергіі знака Шалі. З паўднёвага боку пазьней зьявілася штучная сажалка, што надае месцу асобы сэнс, а з усходу — цудоўны парк. Глыбокі сэнс таксама заключаны і ў самой назве пасяленьня. Мір — як стан грамадства, найлепшым чынам характарызуе знак Шалі, якія імкнуцца да гармоніі і раўнавагі. Мір — як Усяленная, пазнаньне якой немагчыма без містэрыі знака Скарпіёна, пад якім і нарадзіўся замак. Мір — як назва абшчыны, што ўвасабляе сабой этнас Белай Русі. І, нарэшце, Мір — у разуменьні ажыцьцяўленьня боскай задумы ў сьвецкім грамадстве. Больш таго, г.п. Мір на тэрыторыі Беларусі сімвалічна супадае са становішчам Празерпіны — планеты генетычнага коду — у астралагічнай карце краіны, што гаворыць аб рэвалюцыйным значэньні, вялікай разбуральнай і пераўтваральнай сіле гэтай кропкі для ўсёй дзяржавы. Бо Празерпіна — дачка Тварца, вышэйшае дасягненьне духа — эзатэрычна зьвязана са знакам Казярога, які адпавядае Беларусі.



***— Калі Мірскі замак разьмешчаны пад знакам Шалі, а ўзьнік пад Скарпіёнам, то ён павінен мець нейкія своеасаблівыя рысы?***

— Шалі могуць глядзець на акружаючую іх рэчаіснасьць з некалькіх пунктаў погляду, але заўсёды здольны пасьлядоўна адстойваць канкрэтную лінію. І сапраўды, на гэтым невялікім кавалку зямлі знаходзіцца і касьцёл сьвятога Мікалая, і царква сьвятой Тройцы, і сінагогі, і, цяпер страчаная, мячэць. А раней Мір быў нават цыганскай сталіцай, тут жыў цыганскі кароль. Тым ня менш, Мір праславіў менавіта замак феадальнага роду Ільлінічаў. У ім, як у кроплі вады, адлюстраваліся найбольш значныя падзеі ў гісторыі Беларусі.

Замак унікальны ня толькі сваімі архітэктурнымі ды эстэтычнымі якасьцямі. Цікавасьць выклікае і спалучэньне ў ім рознага роду культавых знакаў і элементаў, якія іншы раз проста зьдзіўляюць. Пры існаваньні хрысьціянскай каплічкі — а хрысьціянства знаходзіцца пад знакам Рыб — з паўднёвага боку замку была замураваная галава барана, што сімвалізіруе паганства, эпоху Авена, якая папярэднічала эпосе Рыб. У той жа час, галава барана сімвалізуе і корні славянскіх народаў, у тым ліку і беларускага. Згодна старажытнай легендзе, пакуль існуе вывява барана, будзе стаяць і сам Мірскі замак. Наяўнасьць галавы барана паказвае, што становішча Месячных вузлоў у гараскопе замку было зьвязана са знакам Авена. І сапраўды, у 1502-1503 гадах Узыходзячы вузел, які зьяўляецца паскаральнікам працэсаў, паказвае эвалюцыйны шлях развіцьця, быў у Авене. А Заходзячы вузел, які затрымлівае развіцьцё працэсаў, указвае на інвалюцыйны шлях развіцьця, знаходзіўся ў Шалях.

Зьвяртае ўвагу і тое, што ваенныя кампаніі, як смерч, праносіліся па беларускай зямлі менавіта тады, калі блізіліся да заканчэньня ў замку будаўнічыя работы. Дый сам замак актыўна ўдзельнічаў у ваенных дзеяньнях, не адзін раз разбураўся і адраджаўся. Таму ў яго гараскопе павінен прысутнічаць знак Скарпіёна — знак сьмерці і адраджэньня. Разьлічваючы гараскопы падзей, а таксама гараскоп сьмерці першага будаўніка замку Юрыя Ільлініча — 1520 — можна ўстанавіць і дату нараджэньня, а дакладней касьмічнага ўключэньня.

***— Па гараскопу можна пранікнуць у многія тайны. А якія тайны можа хаваць Мірскі замак?***

— Так, у гараскопе зашыфраваны падзеі, многія з якіх нам пакуль невядомы, і нямала якім мы ўжо, відаць, ня знойдзем дакументальнага пацьвярджэньня. Мяркуючы па ярка выдзеленаму знаку Скарпіёна, у замку панавала актыўная энергія, высокая самасьвядомасьць, тонкая псіхалагічнасьць, прыцягальная зачараванасьць, эмацыянальныя выбухі. А становішча Месяца падкрэсьлівае, што прадстаўнікі роду Ільлінічаў былі даволі сьмелыя, славалюбівыя, мэтанакіраваныя, неардынарныя людзі. Гэты род павінен мець незвычайнае мінулае. У іх абавязкова павінна было быць вялікае жаданьне ўзьвесьці магутную пабудову, каб абараніцца ад нейкага. Не абыйшлося і без задумкі вылучыцца, зарабіць такім чынам прызнаньне, гонар, павагу сярод высокага акружэньня. Але на родзе Ільлінічаў ляжала, відаць, цяжкая пячатка. Яны маглі б выйсьці на новы ўзровень толькі тады, калі б зацьвярджалі свае карані, традыцыі, стымулявалі эвалюцыйнае пераўтварэньне замку. Інакш чорная зорка магіі Антарэс перамалола б іх род у сваіх жорнах, што і адбылося ў 1553 годзе.

У гэты час унук першага будаўніка замку, таксама Юрый Ільлініч, дзякуючы сваім дыпламатычным здольнасьцям, атрымаў-такі тытул, аб якім марыў яшчэ дзед. Але як? Зоркі прымусілі зрабіць яго жорсткі выбар. Для Ільлініча-малодшага з боку замежных партнёраў нечакана падвярнулася магчымасьць памяняць свой сацыяльны статус. Але для гэтага трэба было апаганіць свае традыцыі, свае карані. Гараскоп Ільлініча паказвае, што існавала і другая магчымасьць атрымаць высокі тытул, у тым ліку, на роднай зямлі. Але Юрый не пайшоў па гэтаму шляху. Ён атрымаў тытул графа Сьвяшчэннай Рымскай Імперыі. Прычым гараскоп паказвае, што гэты тытул патрэбен быў яму для таго, каб узвысіцца, мець уладу. Зорка Антарэс доўга чакаць сябе не прымусіла. Юрый Ільлініч, ня маючы нашчадкаў і родных, памірае, па ўсёй верагоднасьці, не сваёй сьмерцю. Ільлінічы аказаліся няздольнымі пранесьці адказную місію, за што і былі пакараны.

Гараскоп быццам бы сьпецыяльна падкрэсьлівае, што замак — не тыповая абаранільная пабудова, а аб'ект, які выклікае высокія эстэтычныя пачуцьці. Венера паказвае на яго вялікі духоўны патэнцыял, замак павінен быў быць культурным цэнтрам. Венера таксама паказвае, што ў яго жыцьці павінны былі адыгрываць вялікую ролю і жанчыны. Аднак пакуль гісторыкі ня могуць даказаць гэтага. Таксама замак быў уцягнуты ў міжнацыянальныя канфлікты, ідэалагічныя спрэчкі, якія заканчваліся іншы раз і крывёю.

Цікава прагледзець, як зьмяняўся зьнешні воблік замка. Першапачаткова ён будаваўся ў гатычным стылі, з выцягнутымі наверх, накіраванымі да Бога, формамі, у спалучэньні з дакладна прадуманай, рацыянальнай сістэмай забудовы. Тады Няптун знаходзіўся ў знаку Казярога: Бог — гаспадар, чалавек — нішто. Але Няптун увайшоў у Вадалей, наступіла эпоха Адраджэньня. Зьявіўся новы ідэал — «чалавек разумны». І паступова замак пераўтвараўся, назіралася вяртаньне да прастаты, класічных формаў.

На жаль, замак згодна першапачатковаму варыянту так і ня быў дабудаваны. Знак Скарпіёна паказвае на разбурэньне. Але ўсё роўна было нямала спроб дабудаваць, пераўтварыць. Так, Радзівіл выкарыстоўваў лепшыя дасягненьні архітэктуры. Невыпадкова, што ў замку стала больш сьвятла, нават улічвалася, як будуць падаць сонечныя промні — Узыходзячы вузел тады быў у Шалях. А калі Уран — планета новага — увайшоў у знак Стральца, які адпавядае Італіі, Радзівіл запрасіў у Мір майстроў з гэтай краіны. З паўночнага боку зьявіўся «італьянскі сад». Няптун пайшоў па знаку Блізьнятаў — сталі зьяўляцца элементы рэнесансанай эстэтыкі. А ў XVII стагоддзі, калі гэта планета была ў Шалях, сталі праглядацца рысы барока, дэвіз якога: «Чалавек — не ўладар, уладар — рок». А значна пазьней, калі Няптун увайшоў у знак Дзевы, прыбудавалі характэрныя для гэтага знаку памяшканьні — пякарню, півоварню, кухню, стайні...



Але ўсё, што ня ўпісвалася ў касьмічныя законы, загадкавым вобразам зьнішчалася. Так, Мікалай Сьвятаполк-Мірскі на ўсход ад замку ўзьвёў эклектычны палац, які трапляў пад уплыў Меркурыя. У 1914 годзе Уран увайшоў у градус пажару і склаў дакладны асьпект з Меркурыям — палац згарэў. Ад Сьвятаполка-Мірскага застаўся толькі пейзажны парк з пахавальняй.

***— Нямала гаворыцца, што ў замку павінны быць падземныя хады. Мяркуюць нават, што яны цягнуцца да Нясьвіжа. Але пакуль ніхто не знайшоў іх. А што сьведчыць гараскоп?***

— Планеты таксама гавораць аб наяўнасьці падземных камунікацый, якія для замку мелі вялізнае значэньне. Разьмяшчэньне камунікацый павінна было садзейнічаць падтрыманьню ўстойлівасьці замку. І яны насілі ня толькі абаранільны характар, служылі ня толькі для сувязяў са зьнешнім сьветам у час аблогаў. Павінны таксама існаваць і нейкія прыстасаваньні, з дапамогай якіх можна было вельмі хутка затапіць падвалы і падземныя хады. Мяркую, што замак хутка адкрые гэтыя тайны.

Хацелася б падкрэсьліць, што Мірскі замак першапачаткова будавалі мясцовыя майстры. Нягледзячы на ўдзел у некаторыя перыяды замежных будаўнікоў і архітэктараў, менавіта мясцовыя сьпецыялісты вызначылі зьнешні выгляд пабудовы. У дваццатыя гады ў Міры грымела слава муляра Яна Пушкарскага. Канчатковы варыянт замку быў узьведзены дзякуючы яго стараньням. Невыпадкова, што і кіраўнік цяперашніх рэстаўрацыйных работ Дзьмітрый Бубноўскі родам з Міра. Як бачым, гэта яшчэ раз сьведчыць аб тым, што замак убірае ў сябе ўсё лепшае, што ёсьць на Белай Русі і захоўвае пераемнасьць пакаленьняў.

***— Мірскі замак быў уцягнуты ў розныя інтрыгі, якія да дабра не прыводзілі. А які лёс яго чакае ў будучым?***

— Градус знаходжаньня Плутона ў гараскопе сьведчыць аб даволі частым існаваньні ў замку атмасферы подласьці, здрады, барацьбы з ворагамі, уцягненьня акружаючых у экстрэмальныя сітуацыі. Нярэдка для дасягненьня ўласных мэтаў уладальнікі замку выкарыстоўвалі брудныя спосабы. Акрамя таго, Плутон паказвае, што гэта збудаваньне абавязана было ўдзельнічаць у многіх разбуральных падзеях, якія адбываліся на Беларусі — дастаткова ўспомніць і шведзка-польскую вайну 1655 году, і паўстаньне Касьцюшкі ў 1794 годзе, і Айчынную вайну 1812 году.

Замак уцягнуты ў барацьбу двух палюсоў — дабра і зла. У самыя цяжкія часы да яго прыходзіць дапамога. Пасьля пакут, разбурэньняў можа надыйсьці росквіт. У будучым маёмасныя справы непрадказальныя, магчыма не адна зьмена ўладальнікаў замку. Прычым, маёмасьць і грашовыя сродкі будуць набывацца самім аб'ектам — замкам. Так што можна сьцьвярджаць, што ён стане музеем. Ня выключана, што цераз высокапастаўленых сваякоў былых уладальнікаў замку, іх бліжэйшага акружэньня, будуць узьнікаць непрыемныя сітуацыі. Жыцьцё замку будзе навідавоку. Марудна, але настойліва ён стане адраджацца і зойме пачэснае месца ў жыцьці Беларусі. Праўда, яго сацыяльнае становішча заўсёды будзе нейкім незразумелым, але ў той жа час яркім. Існуюць паказчыкі шматлікіх кантактаў з замежнікамі. Можна меркаваць, што гэты помнік культуры будзе ўцягнуты і ў дыпламатычныя адносіны.

Мірскі замак павінен быў заранёй «адчуваць» зьмяненьні, што наставалі ў грамадзкім жыцьці. 31 кастрычніка 1992 году ў ім адкрылася музейная экспазіцыя. У гэты час планета дабра Сялена аказалася на месцы, якое ў гараскопе займае планета зла Ліліт. Гэта сьведчыць, што гісторыя правяла замак па «спаленай дарозе» пакутаў, чорная карма застаецца ў мінулым жыцьці. І пабудова пачне зноў адраджацца, адраджацца на новым, больш высокім узроўні. Мірскі замак — наша будучыня. Разам з ім стане адраджацца і Беларусь, якой яшчэ будзе дадзена права сказаць сваё вельмі важкае слова ў славянскай і эўрапейскай гісторыі.

